*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 99 (4454)**

16 снежня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Зноў мышыная валтузня?

Да пачатку прэзідэнцкай кампаніі застаецца некалькі месяцаў, а пра моцнага альтэрнатыўнага кандыдата нічога не чуваць. Не, ахвочых аж занадта, аднак супольнага плана і належнага гуртавання сіл у апазіцыйным лагеры пакуль што няма. Няма нават сталай каардынацыйнай пляцоўкі.

Хіба што правацэнтрысты некалькі гадоў трымаюць кааліцыю, але ж там толькі тры структуры. Ды і ў іх, здаецца, капітальна падвісла задума зладзіць праймерыз, каб вызначыць патэнцыяльнага саперніка дзейнага прэзідэнта з трох прэтэндэнтаў – **Мікалая Казлова** (Аб'яднаная грамадзянская партыя), **Юрася Губарэвіча** (рух «За Свабоду») ды **Паўла Севярынца** (хрысціянскія дэмакраты).

Тым часам хрысціянская дэмакратка **Вольга Кавалькова**, не надта зважаючы на карпаратыўную дысцыпліну, таксама дэкларуе гатоўнасць пайсці на выбары. Такія ж намеры дэманструе выключаная з АГП **Ганна Канапацкая**. Заявіла пра жаданне балатавацца і іншая былая дэпутатка – **Алена Анісім**.

І гэта далёка не поўны спіс. Аб'яднанне «Гавары праўду», якое апрыёры абвясціла, што ні з кім кааперавацца не збіраецца, пэўна ж, будзе прасоўваць у кандыдаты **Таццяну Караткевіч** або **Андрэя Дзмітрыева**. Паплечнікі **Мікалая Статкевіча** маюць намер вылучыць яго, нягледзячы на судзімасць. Пакуль што не сказалі выразна свайго слова Партыя БНФ, «Справядлівы свет», сацыял-дэмакраты, а ў гэтых структурах – свае амбіцыйныя дзеячы.

Карацей, зноў вымалёўваецца пярэсты парад прэтэндэнтаў, а значыць – чарговае бязладдзе. Чаму так? Па-першае, працуюць асабістыя амбіцыі: хочацца як мінімум прапіярыцца. Па-другое, маюць месца ідэалагічныя супярэчнасці. Напрыклад, «Справядліваму свету» не хочацца падтрымліваць «нацыяналіста», а Партыі БНФ – наадварот, «левака». Па-трэцяе, ці не мацней за ідэалагічныя разыходжанні раз'ядноўваюць апазіцыю міжасабовыя цёркі лідараў. Нарэшце, каб стварыць у ёй хаос, спарадзіць чарговую мышыную валтузню, шчыруюць спецслужбы.

Палітыкаў без амбіцый не бывае, але ж варта як мінімум цвяроза ацэньваць сілы – асабістыя і сваіх арганізацый. Сёння ніводная партыя паасобку не мае актыву і рэсурсаў, каб сабраць сто тысяч подпісаў грамадзян, неабходных для вылучэння кандыдата ў прэзідэнты. Так што ўжо нават з гэтага гледзішча варта кааперавацца. І найлепей сабраць за адзінага кандыдата 150–200 тысяч подпісаў, каб уладам цяжка было яго не зарэгістраваць.

Некаторым жа з цяперашніх прэтэндэнтаў відавочна бракуе самакрытычнасці. Народ не кінецца падпісвацца за асобу без моцнага прафесійнага бэкграунду, без гісторыі асабістага поспеху. Просты люд спытае: а што гэты чалавек умее, акрамя як пісаць рэзалюцыі, ездзіць у Страсбург ці трымаць мегафон? Чаго ён дасягнуў па жыцці?

Увогуле, на мой погляд, ніводзін з апазіцыйных лідараў, што навідавоку ўжо не першы год, якімі б станоўчымі якасцямі ён ні валодаў, не мае шанцаў у якасці адзінага кандыдата заваяваць шырокі электарат. Бо за такой персонай апрыёры будзе цягнуцца доўгі шлейф параз усёй апазіцыі. На добры лад трэба шукаць свежага чалавека па-за партыйнымі коламі. Прычым не сацыяльнага аўтсайдара, а яркую асобу, што ўжо самарэалізавалася, набыла аўтарытэт у нейкай сферы. Але такога чалавека ўжо трэба было б раскручваць, іначай не хопіць часу.

Таксама варта, у тым ліку з дапамогай міжнароднай супольнасці, дамагацца дэмакратызацыі ўмоў выбараў. На вялікія зрухі спадзявацца не выпадае, але рэжым усё ж трохі ўлічвае і меркаванне Захаду.

Увогуле ж пры несправядлівых выбарах, калі галасы не лічацца сумленна, перамога апазіцыі магчымая толькі тады, калі, нягледзячы на афіцыйныя лічбы, у паветры будзе вісець адчуванне, што альтэрнатыўны кандыдат дэ-факта перамог, быў відавочна мацнейшы за лідара рэжыму. Тады сапраўды ўзнікае грунт, каб змагацца за скрадзеную перамогу пры дапамозе вулічных выступленняў. Звыш таго, пры такім раскладзе і ў кіроўнай эліце, і сярод сілавікоў могуць пачацца ваганні, раскол.

І як кепскі прыклад згадайма сітуацыю 2010 года, калі шматлікія апазіцыйныя кандыдаты размылі альтэрнатыву, расцягнулі галасы незадаволенага ўладай электарату. Кладучы руку на сэрца: ну чыю перамогу тады можна было адстойваць? Ды нічыю. Так што не паўтарайце, панове, памылку-2010. Тым болей што зараз улада наўрад ці стане рэгістраваць ледзь ці не ўсіх жадаючых (уключна з тымі, хто, як кажуць злыя языкі, здаваў ксеракопіі). Толькі выпусціце пару ў свісток – і ўсе роўненька сядзеце ў галёш.

Прычым шараговаму люду па барабане вашы падзелы на правых і левых, кансерватараў і лібералаў. Тыя, каму абрыдла слухаць 25-гадовы маналог адной дзейнай асобы, хочуць нарэшце ўбачыць выразную персанальную альтэрнатыву. У нашай палітычнай сітуацыі пракочвае толькі біпалярны варыянт. Так што кіньце вашы гульні ў нібыта рэальную шматпартыйнасць і байкі аб прасоўванні на выбарах партыйных ідэалогій. У нашай чорна-белай рэальнасці гэта глухі нумар.

У прыватных размовах апазіцыйныя дзеячы кажуць, што перамовы наконт адзінага, пошукі аптымальнай фігуры пакрысе ідуць. Але ж на добры лад дамовіцца варта было яшчэ ўчора. Бо іначай можа атрымацца, як заўсёды.

Між тым вылучыць моцнага супольнага кандыдата хаця б ад большасці структур (татальнага яднання, зразумела, не будзе) – гэта ў кампаніі-2020 адзіны для апазіцыі шанец захаваць твар. Іначай яе рэпутацыя акажацца разбуранай дашчэнту. З улікам суровых рэалій цяжка спадзявацца на перамогу, але гэты тайм няроўнай палітычнай гульні можна як мінімум адгуляць годна.

СТОП-КАДР




## Каля ста чалавек на Старым мосце праз Нёман ў Гродне пратэставалі супраць «паглыбленай інтэграцыі» Беларусі і Расіі

Акцыя адбывалася ў нядзелю днём. Людзі на мосце ўтварылі жывы ланцуг. Многія прыйшлі з дзецьмі, у руках трымалі плакаты кшталту «Тут не Расія – тут Беларусь». Гучалі воклічы: «Жыве Беларусь!», «Незалежнасць».

Вадзіцелі машын, якія праязджалі праз мост, яўна падтрымлівалі мітынгуючых. Усе падзеі здымалі на камеры людзі ў цывільным, праўда, нікога не затрымлівалі.

Акцыя працягвалася каля гадзіны, пасля чаго людзі пайшлі да ракі і спусцілі на ваду плыт з рэзалюцыяй акцыі, які паплыў па Нёмане праз Балтыйскае мора ў Санкт-Пецярбург, дзе мае адбыцца чарговая сустрэча Лукашэнкі і Пуціна.

У рэзалюцыі, якая напісана па-беларуску кірыліцай і на лацінцы і на рускай мове, гродзенцы выказваюць абодвум прэзідэнтам *«катэгарычны пратэст супраць так званай глыбокай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй, падпісання «дарожных карт», і іншых дзеянняў, якія могуць прывесці да фактычнага паглынання Беларусі Расіяй і скасавання дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь».*

Таксама яны нагадалі Пуціну і Лукашэнку, што ў беларускага народа хопіць сіл абараніць Незалежнасць і дамагчыся вяртання сваіх правоў і свабод.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПАД ГРАДУСАМ

### Да +10

**Сёння** днём чакаецца +3...+9°С, а ў **сераду** без ападкаў і +3...+10°С.

**19 снежня**, у чацвер, таксама пераважна без ападкаў. Днём +1...+6°С.

**20 снежня**, у пятніцу, толькі днём месцамі па захадзе краіны дождж і мокры снег. Днём -2...+4°С, у паўднёва-заходніх раёнах краіны да +7°С.

МАХЛЯРСТВА!

### Скот не прыйшоў

*46-гадовая мінчанка стала ахвярай знаёмства ў інтэрнэце.*

У сацыяльных сетках адзінокая жанчына пазнаёмілася з мужчынам, які прадставіўся амерыканскім бізнесменам Скотам Морысам, паведамляе прэс-служба МУС Беларусі.

Віртуальны суразмоўца распавёў жанчыне, што хоча адкрыць і зарэгістраваць на яе нейкі фонд, што дазволіла б ёй атрымліваць дадатковы прыбытак. Аднак для афармлення дакументаў спачатку неабходна пераслаць яму 500 долараў, што і было зроблена.

Пасля гэтага з жанчынай звязаўся нібыта адвакат бізнесмена, які запэўніў, што ўсё прайшло добра, і папрасіў яшчэ амаль 3 тысячы долараў для адкрыцця рахунку ў банку і афармлення карткі. Пасля таго як мінчанка аддала грошы, а новыя знаёмыя перасталі выходзіць на сувязь, пацярпелая звярнулася ў міліцыю.

Праваахоўнікі ўстанавілі, што грошы былі пераведзены ў Аўстрыю. Скот, натуральна, так і не з'явіўся.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

АНОНС

### Увеличение пособий для женщин за рождение детей с разницей в 3–4 года: целесообразно ли?

Как эксперты и обычные граждане оценивают такую меру по стимулированию рождаемости в стране?

*(Блиц-интервью на 2-й стр.)*




СКАЗАНА!

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

### «За гэта трэба саджаць у турму без суда і следства»

– Як мне дакладваюць, да гэтага часу ў нас не выкаранена палачна-птушачная сістэма. Гэтым грашаць практычна ўсе: міліцыя, мытныя органы, падатковая інспекцыя, пажарная служба, санстанцыя і іншыя. Даходзіць да таго, што кіраўніцтва з супрацоўнікаў патрабуе прынесці не менш як тры-пяць пратаколаў аб правапарушэннях за дзень, калі не – застануцца без прэміі. Недапушчальна. За гэта трэба саджаць у турму без суда і следства. У адваротным выпадку мы не выкаранім гэту праблему, будзе балбатня.

(*Падчас учарашняй нарады па пытаннях прымянення мер адміністрацыйнай адказнасці.)*

ПЕРАСЛЕД

### Складаюць пратаколы...

На ўдзельнікаў акцый пратэсту супраць падпісання інтэграцыйных дакументаў з Расіяй, якія адбыліся ў Мінску 7 і 8 снежня, пачалі складаць пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Паводле звестак праваабаронцаў, учора ў РУУС Маскоўскага і Ленінскага раёнаў было выклікана больш за 20 удзельнікаў акцыі.

І гэта ў той час, калі учора беларускі кіраўнік паведаміў, што за дзесяць гадоў колькасць адміністрацыйных правапарушэнняў павялічылася амаль у два разы. Пры гэтым толькі за няпоўныя пяць гадоў зарэгістравана 16 мільёнаў адміністрацыйных парушэнняў.

**Віктар ШПАК.**

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

### «Старик, уходи!»

*В Казахстане прошла волна митингов против Назарбаева*

Вчера в ряде городов Казахстана полиция задерживала участников несогласованных митингов оппозиции, приуроченных ко Дню независимости страны, а также к очередной дате кровавых событий в городе Жанаозен в 2011 году. В Нур-Султане спецподразделения преградили путь шествию, которое направлялось к правительственному кварталу. Десятки людей были задержаны.

В Алматы – крупнейшем городе страны – также прошел несогласованный митинг. Участники акций скандировали лозунги в поддержку политзаключенных, а также «Казахстан без Назарбаева» и «Шал кет!» («Старик, уходи!»).

Задержаны активисты еще в нескольких городах.

16 декабря в Казахстане считается Днем Независимости. Эта дата совпадает с 33-летием массовых демонстраций в Алма-Ате, когда казахская молодежь выступила против назначения руководителем Советского Казахстана ставленника Кремля Геннадия Колбина, и с восьмой годовщиной событий в городе Жанаозене, где в 2011 году власти силой подавили забастовку нефтяников. Тогда погибли, по официальным данным, 17 человек.

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

### ...Чтобы в 600 библиотеках была «Народная Воля»

*Продолжается благотворительная акция по сбору средств для того, чтобы 600 публичных библиотек имели возможность в первой половине 2020 года получать «Народную Волю». Большой список благотворителей был напечатан в 97-м номере газеты. И вот фамилии очередной группы людей, которые откликнулись на просьбу редакции.*

Моисеенко Андрей Иванович
Корза Мария Станиславовна
Горошко Н.И.
Зверуго Владимир Степанович
Трухан Анна Николаевна
Сасс Виктор Павлович
Герасименко А.В.
Шеметовец А.А.
Каспер Тамара Ивановна
Старовойтова Светлана Николаевна
Никитенко Наталья Владимировна
Шиманский Иван Иосифович
Шевчук Николай Александрович
Танкевич А.К.
Кобякова Л.П.
Шаплыка Е.
Смольская Галина Михайловна
Мархвида В.Г.
Наумчик Иосиф Адамович
Кутлянская Стефания
Мартысюк Олег Григорьевич

*Большое спасибо Вам, дорогие друзья!*

Напоминаем: реквизиты для перечисления денег (произвольным платежом с отметкой *«Подписка для библиотек»*) прежние:

**220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**Банковские реквизиты:**
**Р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**в «Приорбанке» ОАО, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Одновременно хотим сказать: выражая искреннюю благодарность всем благотворителям, редакция газеты «Народная Воля» всегда готова наладить с Вами самые тесные отношения. Рады будем видеть Вас в нашем офисе по адресу: **Минск, ул.Энгельса, 34а**.

Контактный телефон: **8-017-328-68-71.**

СКАНДАЛ

## Следуюший пошел...

*Главный режиссер Большого театра может сильно «загреметь» за фальшивый больничный лист*

Михаил Панджавидзе уволен за прогулы, он покидает свой пост, уезжает из Минска. С большим скандалом, потому что подогревает ситуацию своими демонстративно резкими высказываниями в социальных сетях.

В конце прошлой недели он написал: «Получил уведомление об увольнении за прогулы. Подстава в чистом виде. Без отпускных, без выходного пособия, накануне Нового года. Пока на больничном, не увольняют, но как только выйду – сразу уволят. Вот и всё, что я заработал за десять лет работы. Уезжаю, с чем приехал, только с геморроем... Как это комментировать лапидарно, но цензурно – пока не знаю. Но скоро узнаю и напишу. И гораздо больше и информативнее, чем ожидают от меня в руководстве театра».

И шквал сочувствия опальному мастеру не заставил себя ждать.

А вчера стало известно, что один из больничных листов, который главный режиссер предоставил в дирекцию, оказался поддельным



документом. То бишь фальшивкой. Театр и медучреждение даже направили соответствующее письмо в УВД Центрального района Минска, чтобы они дали соответствующую правовую оценку действиям Михаила Панджавидзе. Так что творческий скандал плавно перерастает чуть ли не в уголовный.

Не могу представить пока, во что выльется противостояние между бывшим главным режиссером и Большим театром Беларуси, но то, что мы прославимся «до самых до окраин», – это уж наверняка. Поток проклятий и стенаний теперь не остановить. Почему-то некоторые считают, что требовать дисциплины от творческого работника – это настоящий «совок». Хочу огорчить поборников беспредельного либерализма. Например, капиталисты увольняют, даже если ты просто опоздал на репетицию. Спросите, например, оперных див Марию Гулегину или Оксану Волкову – тех, кто работает на мировых сценах. Или штрафуют нарушителей на такие значительные суммы, что отбивают все мысли о «свободе творчества». Потому что, если ты в штате, подписал контракт, будь любезен железно подчиняться расписанию.

Конечно, Михаил Александрович будет защищаться сейчас, как раненый лев, – он человек очень эмоциональный. А если еще захочет осуществить свое обещание рассказать «всю-всю правду» о дирекции... Небо на землю, конечно, не упадет, но предвижу в таком случае большую – и, конечно, не нужную театру – суматоху. И пойдет стенка на стенку.

К чему это приведет? Совершенно ни к чему. Государственное учреждение Большой театр Беларуси останется незыблемым, как скала. О, сколько было тех, кто, уходя, предрекал ему распад и полную гибель. И напрасно. Театр процветает. Потому что он нужен людям.

Но все, кто знаком с Михаилом Панджавидзе, знают жесткий нрав бывшего главного режиссера, его резкость, переходящую иногда в... Хотя не будем усугублять. Все-таки спектакли, которые ставил Панджавидзе, – «Набукко», «Тоска», «Турандот», «Седая легенда», «Паяцы», «Макбет» – это очень серьезные работы. Михаил Панджавидзе – талантливый человек. Но амбициозный, горделивый. С новой командой, ставшей с недавних пор у руля Большого театра, работать, похоже, не захотел. Даже на пресс-конференции перестал приходить. Как выясняется, совсем не из-за болезни. Вернее болезнь эта называется горькая обида. Страшный диагноз для творческой личности. Но бюллетень на него не дают, что правда, то правда.

**Елена МОЛОЧКО.**

СУДЬБОНОСНАЯ ТЕМА

Леонтий ЗДАНЕВИЧ,
депутат Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва, член Конституционной комиссии 1994 года, архитектор

# О чем молчат колокола



Осеннее обострение политической обстановки в Европе перешло в зимнее, и всё более жестко формирующаяся ось противостояния Россия – Запад не может не беспокоить здравомыслящих людей.

Особенно острое напряжение ощущается у нас, в Беларуси. Звучит это на первый взгляд парадоксально, ибо наша страна не является «горячей точкой» да и на особую роль в геополитике не претендует. Так в чем же дело?

Целый ряд неудач во внешней политике и очевидные проблемы внутри страны, а также юридический тупик оставляют «самодержцу» России немного шансов на мало-мальски пристойную форму пролонгации властных полномочий. И это, как мне кажется, очень сильно подталкивает его к тому, чтобы предъявить «разогретому» электорату очередной имперский «успех».

И жертва, считай, уже определена. Это Беларусь.

Высказывания многих политических стратегов на всевозможных ток-шоу российского ТВ и в интернете шокируют откровенностью и наглостью. Они за нас уже всё решили!

Наше беспокойство основывается не только на понимании возможных трагических последствий союзнической роли Беларуси, которой предписано стать передовой линией фронта воюющей страны (благодаря яркому высказыванию одного известного человека о чужих войнах, полагаю, многие задумались на эту тему). Больше всего беспокоит то, что мы, граждане Беларуси, отстранены от судьбоносных политических процессов, определяющих наше будущее, которые, к сожалению, могут стать необратимыми!

Именно желание посоветоваться с обществом и поделиться своими надеждами побудило меня взяться за перо.

Для начала попытаемся проанализировать реалии сегодняшнего дня, или объективные факторы влияния.

ПЕРВОЕ. Весь мир устал от агрессивных действий России (Молдова, Грузия, Украина…). Наглость и воинственность главных пропагандистов Путина достигла такой омерзительной формы (особенно антиукраинская тема), что уже как минимум настораживают умеренных приверженцев «русского мира».

ВТОРОЕ. С другой стороны, имиджу Соединенных Штатов как оплота демократии нанесен серьезный урон грубой и циничной политикой их предыдущих правителей, опозорившихся в Ливии, Ираке, Югославии...

ТРЕТЬЕ. Непоследовательная, невыразительная политика крупнейших государств Европы, балансирующих между провозглашенными принципами демократии, союзническими обязательствами и банальными интересами бизнеса (громадные потери от «южного потока» беженцев пытаются компенсировать «Северным потоком»). Разве не похоже молчаливое попрание Будапештского меморандума на пакты имперских держав Европы в конце 1930-х годов XX века?!

Эти три основных, на мой взгляд, фактора, определяющих политическую ситуацию в центре Европы, являются общеизвестными и поэтому дают надежду на правильное и своевременное их переосмысление политическими силами, способными предотвратить катастрофу.

И наконец четвертый и главный для нас фактор.

**«Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.**

**Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.**

**Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак».**

Я привёл содержание ст.1 действующей Конституции Республики Беларусь. Знает ли об этой статье Путин? Помнит ли о ней Лукашенко? Изменить эти нормы может только народ Беларуси. Любое другое действие, противоречащее Конституции, – преступление!

Уверен, что те, кому надо, в Москве об этом знают и, можете не сомневаться, готовят нам… референдум. Осведомленные о достигшей «совершенства» избирательно-выборной системе в нашей стране (парламентские выборы как никогда ярко продемонстрировали это) абсолютно уверены в успехе. Западные же политики-аналитики в очередной раз показали неспособность постичь всю простоту механизма выборов (голосования) *по-нашему*. Их рассуждения о недостаточности демократичности избирательного процесса на последних выборах вызывают смех. В их цивилизованных головах не укладывается, что количество участвующих и проголосовавших «как следует» можно просто «нарисовать»...

У меня нет ни малейшего сомнения в том, что честно проведенный плебисцит подтвердит желание белорусов жить в своем доме. И, конечно, при наличии доброй воли у нашего «гаранта» всё так и будет, но выдержит ли он давление «старшего брата»?

Свобода еще никому не давалась просто так. Нам придется за нее побороться! Мы должны, обязаны добиться справедливости и прозрачности всего голосовательного процесса и абсолютно честного подсчета голосов. Мы должны четко дать понять нашей власти, мировому сообществу (в том числе России), что мы, народ Беларуси, не желаем быть объектом манипуляций любых политических игроков. Но это тема отдельного разговора.

А теперь о самом главном. Национальная идея, которую так долго искала нынешняя власть и пока не нашла, сама постучалась в дверь. Мы начинаем понимать ценность нашей национальной идентичности, мы понимаем, что наша государственность стоит на фундаменте богатейшей, но драматичной истории, мы наконец осознаем, что пора научиться жить по средствам, избегая какой-либо наркотической зависимости, и что нужно срочно провести экономические реформы, суть которых в создании наилучших условий для реализации творческой инициативы собственных граждан. И здесь пришло время привести еще одну цитату, на этот раз повторить ст.18 действующей Конституции РБ:

**«Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права.**

**Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву – нейтральнай».**

Прошло более четверти века со дня принятия первой Конституции Республики Беларусь Верховным Советом 12-го созыва, а актуальность и мудрость принципов, заложенных в ней, становятся, как никогда, очевидными. Только в нейтральном статусе, опираясь на нормы международного права, мы можем реализовать идею процветающего и демократического государства, общества! Нет ничего глупее, чем стать (о чем я говорил выше) «кулаком» в противостоянии Востока и Запада, особенно в связи с событиями в Украине. Не менее глупо участвовать в каких-либо играх, направленных против интересов в первую очередь безопасности России – огромнейшей по территории и амбициозной по политическим устремлениям, с которой мы тесно связаны не только экономически. Мы сможем сосредоточиться на собственых проблемах и исключим в оценке действующей власти столь спекулятивный и вечно спасительный фактор внешнего влияния. С нами будет заинтересован сотрудничать весь мир, потому что нас перестанут бояться, будут больше доверять, ибо у нейтральности есть синоним: **стабильность**!

Мы вместе с другими странами-соседями (а я уверен, что они к нам подключатся) создадим существенный элемент Балтийско-Черноморского пояса стабильности, и это, на мой взгляд, принесет огромную пользу России, где, я на это очень надеюсь, поймут, что средневековый метод укрепления империи посредством расширения территории – не единственный, а есть другие, более эффективные для XXI века методы утверждения собственных амбиций.

Да, возможно, придется пожить какое-то время без «котлет», но и «мух» есть мы не станем, будем есть свою доморощенную бульбу. Потенциал Беларуси и ее граждан огромен, я хорошо это знаю. Но это уже другая тема…

У нас есть выбор, и мы его сделаем!

ІНІЦЫЯТЫВА

## Ушанаваць месца масавых расстрэлаў!

*Ініцыятыўная група гамяльчан распачала збор подпісаў за вывучэнне, даследаванне і ўшанаванне месцаў масавых расстрэлаў, здзейсненых НКУС у 1930–1940-х гадах пад Гомелем.*

Зварот будзе накіраваны ў Гомельскія абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, пракуратуру, упраўленне Следчага камітэта, упраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гомельскай вобласці.

У склад ініцыятыўнай групы ўваходзяць журналісты, гісторыкі, музыканты, грамадска-палітычныя актывісты.

БЛИЦ

*Как пояснила министр труда и соцзащиты **Ирина Костевич**, в Беларуси планируется увеличить пособие для женщин за рождение детей с разницей в 3–4 года. Это связано с тем, что если раньше белоруски рожали в среднем с 20 до 40 лет, то у современных мам этот срок сократился на 10 лет – с 30 до 40. «Когда семьи говорят, что не планируют ранее 29 лет иметь первого ребенка, это указывает на то, что мы должны переформатировать свои меры поддержки», – отметила она.*

*Как эксперты и обычные граждане оценивают такую меру по стимулированию рождаемости в стране?*

## Увеличение пособий для женщин за рождение детей с разницей в 3–4 года: целесообразно ли?

**Лев ЛЬВОВСКИЙ, старший научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC):**

– Я сомневаюсь, что такая инициатива поможет.

Данная мера – часть общего дискурса о том, что сегодня люди не заводят детей потому, что у них не хватает денег. На самом деле среди менее обеспеченных слоев белорусского общества с рождаемостью не так всё плохо. Например, на селе рожают гораздо больше, чем в городах.

Сейчас основная причина того, что женщины стали меньше рожать (особенно в городах), – это конфликт между карьерой и материнством. Соответственно, надо полностью менять парадигму помощи государства и облегчать именно временные затраты родителей. Построить ясли для детей с одного-двух лет, создать более гибкое законодательство в сфере труда (чтобы было проще совмещать), сделать нормальные законы, чтобы отцы могли (и были мотивированы) уходить в декрет на часть срока. Надо популяризировать идею о том, что дети не помеха карьере и что современные успешные работающие женщины могут спокойно совмещать этот статус с материнством.

В развитых европейских странах смогли создать очень гибкую систему поддержки семьи, которая позволяет женщине не отказываться от карьеры, самореализации после рождения детей. И там (например, в Швеции) после демографического провала коэффициент рождаемости сейчас составляет 1,9–2. Это не достигает уровня воспроизводимости населения, но вплотную к нему приближается.

**Александр СОСНОВ, экс-министр труда и соцзащиты:**

– Думаю, вряд ли это поможет. К сожалению, мировая тенденция такова, что женщины стали меньше рожать…

**Ирина АЛЬХОВКА, председатель правления международного общественного объединения «Гендерные перспективы», член национального совета по гендерной политике при Совете министров:**

– Абсолютно понятно, почему правительство заговорило о такой мере стимулирования рождаемости, и целесообразность в этом есть. Сейчас график родов смещается: женщины позже выходят замуж, позже рожают, и зачастую до вторых детей в семьях просто не доходит. Поэтому, конечно, стимулировать экономически – это правильно. Тем более что на это время женщина исключается из карьеры, рынка труда, доход семьи падает, женщина идет на большие риски…

Но мне кажется, проблему надо решать комплексно, и в этой связи не совсем понятно, почему отпуск по уходу за ребенком исключен из страхового стажа. Большой вопрос, станут ли рожать женщины с разницей в 3–4 года, если им увеличат пособие, но не засчитают эти годы в страховой стаж, от которого зависит размер пенсии. Мне кажется, надо думать о комплексных мерах, а не точечных…

**Сергей ЧАЛЫЙ, экономист:**

– На мой взгляд, все эти меры не помогут кардинально решить проблему рождаемости. Потому что на самом деле сейчас в детородном возрасте находятся женщины, которые были рождены в период демографического провала – в начале и середине 1990-х годов. То есть детей рождаться будет меньше. На мой взгляд, превалируют эти факторы, а не другие. Ни семейный капитал, ни существенное увеличение единовременного пособия по рождению ребенка сильно не повлияли на увеличение рождаемости в стране…

**Леонид ПУТЫРСКИЙ, доктор медицинских наук, профессор, врач-маммолог:**

– Если что-то дают – это хорошо, плохо, когда отбирают… Ну а если серьезно, мне кажется, что предложение поощрять мам за рождение ребенка – хорошее. В Польше, например, на каждого ребенка до 18 лет ежемесячно государство платит 100 евро, в Литве – 60 евро.

Вопрос в том, какой будет эта доплата. Женщина сама будет решать, рожать ей или нет второго, третьего ребенка, покроет ли это пособие риски, связанные с тем, что ей придется делать перерыв в карьере.

**Екатерина КОВАЛЬ, 26 лет, юрист, временно не работает по причине декретного отпуска:**

– Мне кажется, наших женщин государство разбаловало. Три года декретного отпуска! В каких странах мира есть такая роскошь?! Наши бабушки через пару месяцев после рождения ребенка выходили на работу, мамы сидели в декрете год. А сегодня три года! И все равно рожать не хотят. Думаю, потому, что на желание иметь детей влияют и другие факторы: где в семье любовь и достаток – там и будут дети. А все эти искусственные стимулирования – это только мотивация для рождения детей в асоциальных семьях, чтобы несколько лет пожить на детское пособие.

Создайте условия, чтобы те, кто хочет работать, имели возможность реализовать себя и достойно зарабатывать, тогда и женщины будут рожать, и умная, думающая молодежь не будет уезжать из страны.

**Александра ЛОБЗОВА, корректор:**

– Когда я прочитала об этой инициативе, с языка сорвалось: начинаем рожать на время, скоро будем и на расстояние! Как тут не вспомнить анекдот про председателя колхоза, который предлагал в целях борьбы с падежом скота выкрашивать стены коровника в разные цвета, а когда все коровы сдохли, сокрушался: «Ну вот! А у меня еще столько интересных задумок!..»

**Мария ЭЙСМОНТ.**

АКЦЫЯ

## «Разлічваем на адэкватнасць гарадскога кіраўніцтва»

*Сёння прадстаўнікі арганізацыйнага камітэта «Абаронім незалежнасць» **Павел Севярынец і Мікалай Казлоў** мусяць перадаць у Мінгарвыканкам апавяшчэнне аб правядзенні акцый у падтрымку суверэнітэту Рэспублікі Беларусь 20 і 21 снежня на Кастрычніцкай плошчы.*

*«Нагадваем, што абарона суверэнітэту РБ – канстытуцыйны абавязак беларускага народа. Разлічваем на адэкватнасць гарадскога кіраўніцтва, якое абавязана спрыяць захаванню міру і парадку на вуліцах горада»*, – гаворыцца ў заяўцы.

– Что за форма звароту да ўлад – апавяшчэнне? – звярнуліся мы да Мікалая Казлова.

– *Фармальна ў нас дзейнічае паведамляльны прынцып правядзення масавых акцый, але па сутнасці ўлады абмяжоўваюць беларусаў у правах, патрабуючы плаціць за паслугі міліцыі, камунальшчыкаў, медыкаў, а таксама заганяючы іх у нейкае вызначанае месца, як у стойла. Таму мы вырашылі падаць заяўку-апавяшчэнне. Акрамя таго, мы не ўкладваліся і ў агавораны заканадаўствам тэрмін падачы заяўкі – за 15 сутак да правядзення мерапрыемства,* – патлумачыў лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Мікалай Казлоў адзначае, што ў апавяшчэнні камітэт «Абаронім незалежнасць» прапаноўвае такі расклад акцыі на 20 снежня: збор на Кастрычніцкай плошчы ў 18.00–18.30, затым мітынг і шэсце па маршруце праспект Незалежнасці – плошча Незалежнасці – вул.Валадарскага – парк Міцкевіча – вул.Няміга – вул.Зыбіцкая і зноў Кастрычніцкая плошча і ланцуг уздоўж праспекта.

На 21 снежня прапаноўваецца збор з 14 гадзін на Кастрычніцкай плошчы.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

### Альтэрнатыўная акцыя

У той жа час кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта **Ігару Сергеенку** быў накіраваны зварот ад імя кіраўнікоў «левапатрыятычных грамадскіх аб'яднанняў Беларусі, якія ствараюць каардынацыйны савет «Адзінства». Яго аўтары просяць даць дазвол на правядзенне акцыі ў падтрымку інтэграцыі на Кастрычніцкай плошчы 20 снежня з 12 да 13 гадзін.

АФІЦЫЙНА

## З 5 да 10 сутак

Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон, якім унесены змяненні ў Закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь».

Закон прадугледжвае павелічэнне з 5 да 10 сутак тэрміну, на працягу якога іншаземцы, якія прыбылі ў Беларусь, абавязаны зарэгістравацца па месцы фактычнага часовага знаходжання. Такое рашэнне прынята для развіцця турыстычнай і інвестыцыйнай прывабнасці краіны, спрашчэння дзелавых і прыватных кантактаў.

Таксама законам карэкціруюцца падставы адмовы іншаземцу ў выдачы візы для ўезду ў Беларусь або ва ўездзе ў краіну. Адначасова вызначаецца механізм атрымання іншаземцамі і іх прадстаўнікамі інфармацыі аб уключэнні ў спіс асоб, уезд якіх у Беларусь забаронены або непажаданы.

КАДРЫ

## Аляксандр Лукашэнка прадоўжыў тэрмін службы шасці генерал-маёрам

Ваенная служба звыш гранічнага ўзросту знаходжання на гэтай службе прадоўжана генерал-маёрам Генадзю Ляпешку (да снежня 2024 года), Ігару Печаню (да мая 2025 года), Віктару Лісоўскаму (да кастрычніка 2025 года).

Генерал-маёрам міліцыі Аляксандру Барсукову і Мікалаю Мельчанку служба ў органах унутраных спраў прадоўжана да красавіка і жніўня 2025 года адпаведна. Служба ў Дзяржаўным камітэце судовых экспертыз звыш гранічнага ўзросту знаходжання на гэтай службе генерал-маёра юстыцыі Сяргея Яўмененкі прадоўжана да сакавіка 2023 года.

АСОБА

# Гэнік ЛОЙКА: «Помнік Касцюшку я вылепіў на табурэтцы»

*Францішак Скарына ў Кішынёве, Тадэвуш Касцюшка ў Марачоўшчыне, Алесь Адамовіч у Глушы… Гэтыя адлітыя ў бронзе героі розных эпох пазначаны пячаткай аднаго майстра – Гэніка ЛОЙКІ. Сябра мастацкай суполкі «Пагоня», ён носіць бел-чырвона-белую стужку на галаве і гатовы бараніць свае нацыянальныя правы хоць у чыноўніцкіх кабінетах, хоць на Плошчы. Сёння скульптар – госць «Народнай Волі».*

**– Гэнік, за паўтара года паставіўшы тры помнікі слаўтым беларусам, ты адчуваеш сябе запатрабаваным скульптарам у гэтай краіне?**

– А я заўжды быў запатрабаваны, нават калі рабіў керамічныя медалі. Хоць, прызнацца, пасля Тэатральна-мастацкага інстытута я не адчуваў сябе скульптарам. Я не ўяўляў сабе, як пайду працаваць, скажам, на мастацкі камбінат і буду змагацца з калегамі за дзяржаўныя заказы. Таму пайшоў у педагогіку. Выкладаў у сваім родным Парнасе – Рэспубліканскай школе выяўленчага мастацтва, у сталічнай СШ №185. Захапіўся керамікай, зрабіў медалі з выявамі Францішка Багушэвіча, Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Язэпа Лёсіка, Ларысы Геніюш…

**– Керамічны медаль і помнік у поўны рост – гэта зусім розныя рэчы. Хто табе прапанаваў зрабіць Касцюшку для Марачоўшчыны?**

– Я лічу галоўным аўтарам гэтага помніка Глеба Лабадзенку, які ўсё так умела арганізаваў. Справа ў тым, што ў мяне ўжо быў гатовы эскіз. Перад гэтым Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ папрасіла мяне зрабіць эскіз помніка Касцюшку для Швейцарыі, дзе ён пахаваны. Маўляў, яны звярнуліся да аднаго скульптара, але той загнуў такую цану!.. Ну, я зрабіў, адаслаў і раптам чую па радыё, што помнік для Швейцарыі робіць іншы скульптар. Я асабліва і не перажываў – хай робіць! І тут раптам спатрэбіўся помнік і для Марачоўшчыны. А ў мяне ён амаль гатовы.

**– Я чытаў, што Касцюшку адлівалі ажно ва Украіне. Чаму?**

– Бо там танней, прычым значна. Пасля «ленінападу» ва Украіне, калі з пастаментаў былі зняты ўсе помнікі савецкім правадырам, там цана на бронзу ўпала, і мы гэтым скарысталіся.

**– Помнік у Марачоўшчыне усталёўваўся на народныя грошы, сабраныя тым жа Лабадзенкам. А Скарына ў Кішынёве, наколькі я разумею, – дзяржаўны заказ. Як сёння аплачваюцца дзяржзаказы?**

– У Кішынёве адкрываўся новы будынак амбасады Беларусі, там усё было з размахам. У палажэнні аб конкурсе, які раздалі скульптарам, значылася сума 150.000 рублёў. Калі стала вядома, што перамог мой праект, я ледзь не ашалеў ад радасці! Мы з жонкай вырашылі, што нарэшце зможам пабудаваць сабе дом. Але радаваліся мы надоўга. Прыходжу ў Міністэрства культуры, а там мне кажуць: памылачка выйшла, лішні нуль прыпісалі. Сума мае быць 15.000 рублёў. Палову з гэтага пералічылі на ліцейны завод, палову аддалі мне.

**– Гэтымі днямі ў інтэрнэце на сайце svaje.by ідзе галасаванне за праекты помнікаў Слуцкаму паўстанню. Дарэчы, твой праект карыстаецца папулярнасцю.**

– Дзякуй усім, хто прагаласаваў за мяне! А яшчэ мне хочацца паставіць у Рагачове Гервасія Выліваху – гэта будзе першы ў Беларусі помнік літаратурнаму герою. А ў Гудзевічах на Мастоўшчыне перад знакамітым музеем – помнік яго заснавальніку Алесю Белакозу. Гіпсавая копія ўжо стаіць у музеі, застаецца перавесці яе ў больш трывалы матэрыял.

**– Ведаю, што ў цябе трое дзяцей. Хто з іх следам за бацькам пайшоў па цярністым шляху мастака?**

– Дачка Кіра, цяпер яна вучыцца на аддзяленні графікі Акадэміі мастацтваў, займаецца і жывапісам. Старэйшы сын Яраш адвучыўся ў Коласаўскім ліцэі, цяпер займаецца інфармацыйнымі тэхналогіямі ў Польшчы. Малодшы сын Любарт – студэнт 2-га курса Тэхналагічнага ўніверсітэта, таксама камп'ютаршчык.

**– Жонка твая Алена Каравай – таксама ж мастак, кніжкі ў яе аздабленні прыемна ўзяць у рукі. Тры мастакі ў хаце як ужываецца?**

– Ужываемся. Летась мы з жонкай адзначылі срэбнае вяселле – у рэстаране «Сябры», які я, дарэчы, афармляў. Сабраліся толькі сям'ёй – дзеці і мы.

**– Неўзабаве адбудзецца чарговы з'езд Саюза мастакоў, дзе будзе пераабрана кіраўніцтва арганізацыі. А ў цябе няма планаў стаць старшынёй саюза?**

– Не, і ніколі не было. Кіравацъ – гэта асаблівы талент. Рэдка супадае талент мастака і талент кіраўніка, што мае месца ў выпадку з Рыгорам Сітніцам. Як старшыня нашага саюза ён мне падабаецца. Праўда, мне ад саюза практычна нічога не трэба.

**– Майстэрню, здаецца, ты так і не атрымаў?**

– А навошта яна мне? Я прывык медалі рабіць дзе прыйдзецца. Помнік Касцюшку дома на табурэтцы вылепіў! Я ўсё жыццё пражыў без майстэрні. Мне часам на кефір не хапала грошай, а каб яшчэ майстэрню аплачваць...

**– Жонка не папракала, што мала зарабляеш?**

– Бывала рознае. 14 гадоў я адпрацаваў у школе, год у мастацкім вучылішчы, потым перайшоў у «Белрэстаўрацыю». А пасля стаў беспрацоўным. І вось тады жонка сказала: мужчына павінен зарабляць! А дзе? Доўга я шукаў працу і нарэшце знайшоў у інтэрнэце абвестку: у майстэрню скульптара Андрэя Асташова ў Астрашыцкім Гарадку патрабуюцца работнікі. У Асташова вельмі шмат заказаў у жанры дэкаратыўнай скульптуры, нас, памочнікаў, пяцёра, і мы ледзь спраўляемся: адліваем фігуры з воску, падчышчаем дэфекты, здаём у ліцейку, потым бронзу шліфуем, таніруем і на камень садзім.







Гэнік Лойка выступае на адкрыцці помніка Тадэвушу Касцюшку.

**– А табе не крыўдна працаваць фактычна падмайстрам у 57 гадоў?**

– Абсалютна не крыўдна. Я заняты любімай працай. Я ў Асташова не прыгонны, маю магчымасць і нечым сваім пры патрэбе заняцца. Скарыну і Адамовіча я па вечарах рабіў у Астрашыцкім Гарадку. І Гедыміна для Ліды. Праўда, мой праект атрымаўся не для плошчы, але ён вельмі спадабаўся прадпрымальніку, які трымае каля Лідскага замка кавярню. Хочам там усталяваць. І Якуба Коласа для Стоўбцаў я паспрабаваў нядаўна зрабіць, заняў другое месца. А перамог у конкурсе Іван Міско. Хоць сваякам Коласа спадабаўся і мой варыянт, яны прапануюць усталяваць яго ў Пінску.

**– Дык гэтым найперш і трэба займацца! А не шліфоўкай дэкаратыўных статуэтак у чужой майстэрні.**

– Каб жа не клопат пра хлеб надзённы… Але і статуэткі патрэбны, не толькі велічныя помнікі. Помню, як у свой час праходзіў конкурс на помнік Скарыну ў Мінску. Паглядзеў я выставу праектаў, і падалося мне, быццам гэта ўсё Леніны, адно што замест лысін – берэты. Так прызвычаены былі нашы скульптары да стварэння гэтак званай Ленініяны…

**– «Няма таго, што раньш было…» Але чаму за 28 гадоў існавання беларускай дзяржавы ў нас так і не ўзнікла сваёй скульптурнай школы? Што сёння лепяць маладыя? Бабра для Бабруйска, жараба для Зэльвы, карову для Мінска, агурок для Шклова…**

– Што зробіш – такі цяпер дзяржзаказ. Пераважна безасабовы, па-за нацыянальнай гісторыяй. У раённых гарадах мясцовыя ўлады баяцца паставіць помнік якому-небудзь не таму герою…

**– На нашых вачах губіцца нацыянальная школа – на гэта «Народная Воля» звяртае ўвагу ледзь не ў кожным нумары. Як абараніць школу? Падзяліся сваім досведам змагання?**

– Калі мае дзеці вучыліся ў мінскай гімназіі №4, я хадзіў туды, як на працу. Іншыя бацькі столькі вольнага часу не мелі, я не мог іх згуртаваць вакол сябе. А гімназія тая далёка не адпавядала статусу беларускамоўнай. Я хадзіў да дырэктара, размаўляў з завучам – нічога не дапамагала. Тады я зладзіў пікет, адзін, не было з кім нават транспарант трымаць. Дык я ўставіў яго адным канцом у снег, а другі трымаў. Потым мне 5 сутак за той пікет далі...

**– Усяго? Якая гуманная наша ўлада…**

– Уся бяда ў тым, што беларускамоўны статус нашых школ ні ў якіх юрыдычных дакументах не рэгламентуецца. У Канстытуцыі сказана аб праве грамадзян выбіраць адну з двух дзяржаўных моў. Другія дакументы павінны растлумачыць, што такое «беларускамоўная школа». Але такіх дакументаў няма. Атрымліваецца, што ў нас ні права, ні абавязак навучаць па-беларуску нідзе не прапісаны! І таму законам становіцца жаданне бацькоў.

**– Павінна быць нейкае палажэнне аб беларускамоўных школах?**

– Абавязкова! Таму я пайшоў у Міністэрства адукацыі, трапіў на прыём да намесніка міністра. І выклаў яму свой клопат: калі даецца права выбраць мову навучання, то павінна быць распісана, што такое навучанне на беларускай мове. А чыноўнік адказвае: нідзе не распісана. І дадае: галоўнае, каб нікога не прымушаць... А цяпер я хачу спытацца ў міністра адукацыі Ігара Карпенкі: а хіба не пад прымусам мой сын паступіў у рускамоўны ўніверсітэт? Хіба вы забяспечылі яму магчымасць вучыцца ў беларускамоўным універсітэце? Не забяспечылі. Дык вось, няма ў нас беларускамоўных ВНУ, а хутка не стане і школ. Беларускамоўныя школы былі пры бальшавіках, былі пры фашыстах, былі ў партызанскіх лясах. А ў незалежнай Беларусі яны хутка могуць знікнуць дарэшты.

**– Дык што рабіць у такой сітуацыі грамадству?**

– Выкарыстоўваць дзейнае заканадаўства ў сваіх мэтах. Напрыклад, Закон аб мовах дае мне права не ведаць рускай мовы. Застаецца прымусіць чыноўніка ведаць мову беларускую. Я вырашыў ад любой дзяржаўнай установы атрымліваць дакументы толькі па-беларуску. Так афіцыйна і заяўляю: я не ведаю рускай, дайце мне дакумент па-беларуску. Прыйшла неяк позва майму сыну з ваенкамата – па-руску, у іх там бланкаў па-беларуску няма. Я пайшоў да ваенкама і кажу: гэта не мае праблемы, мой хлопец не адкошвае ад войска, ён гатовы прайсці медкамісію. Ад вас патрэбна толькі позва па-беларуску. Дык яны цягнулі больш за два гады! Ужо сын паступіў ва ўніверсітэт... І нарэшце прыйшла позва на беларускай мове.

**– Ты заўсёды носіш на галаве бел-чырвона-белую стужку. Гэта твой апазнавальны знак?**

– Так, усе ўжо з гэтым звыкліся. Калісьці такую ж стужку насіў яшчэ бард Сяржук Сокалаў-Воюш. Потым ён з'ехаў жыць у ЗША, і я застаўся адзін. У пашпарце графы «нацыянальнасць» не стала, то няхай хоць у мяне на ілбе будзе «напісана», што я – беларус.

**Міхась СКОБЛА.**

МУДРЫЯ СЛОВЫ



## Пётр ТКАЧОЎ:

*– Рэвалюцыю рыхтуюць не рэвалюцыянеры, а ўрад.*

РЭГІЁН

## Гродна падпісаў «Пагадненне мэраў»

*Мэта пагаднення – змена экалагічнага становішча і барацьба са зменай клімату. Згодна з падпісаным пагадненнем, у бліжэйшыя 10 год горад павінен знізіць выкіды парніковых газаў на 30%.*

*«Пагадненне мэраў» падпісаў старшыня Гродзенскага гарвыканкама* ***Мечыслаў Гой.***

Праект «Пагадненне мэраў» з'яўляецца міжнародным, у ім задзейнічана каля 10 тысяч гарадоў свету. Частку фінансавых затрат на яго выкананне бярэ на сябе Еўрапейскі Саюз.

Праца над праектам пачнецца з аналізу экалагічнай сітуацыі. Найперш будзе вызначана, якія выкіды парніковых газаў утвараюцца ў адным базавым годзе. У далейшым працу маюць намер скіраваць на распрацоўку мерапрыемстваў, якія будуць спрыяць скарачэнню выкідаў, да 2030 года. Плануецца, што дапамогу ў гэтых работах будуць аказваць адмысловцы з Еўропы.

Важна зазначыць, што Гродна ўжо рэалізоўвае некаторыя экалагічныя праекты: развіццё маршрутаў электратранспарту, уцяпленне тарцоў дамоў, замена цеплатрас, укараненне ў вулічным асвятленні святлодыёдаў і іншае.

У межах «Пагаднення мэраў» ужо ў бліжэйшы час плануецца высадка зялёных алей, замена дызельных аўтобусаў на электрычныя. У мікрараёне, дзе запланавана будаўніцтва толькі энергаэфектыўных дамоў, з'явяцца будаўніцтва «Зялёнага квартала».

Трэба адзначыць, што Гродна стаў 51-м беларускім горадам, які падпісаў «Пагадненне мэраў».

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЧУЛІ?

## Пазычылі ў Кітая каля 500 мільёнаў долараў

У Шанхаі паміж Рэспублікай Беларусь (у асобе Міністэрства фінансаў) і Шанхайскім філіялам Банка развіцця Кітая падпісана Пагадненне аб прадастаўленні тэрміновага крэдыту на 3,5 млрд кітайскіх юаняў (каля 500 млн долараў).

Ад імя Беларусі пагадненне падпісаў міністр фінансаў **Максім Ермаловіч.**

У Мінфіне падкрэсліваюць, што крэдыт не звязаны з рэалізацыяй якога-небудзь праекта і можа быць накіраваны на агульныя мэты, у тым ліку на пагашэнне і абслугоўванне дзяржаўнага доўгу, падтрыманне золатавалютных рэзерваў, а таксама на садзейнічанне развіццю двухбаковага гандлю паміж Беларуссю і Кітаем.

СЕНСАЦЫЯ!

## Былы спецназавец: «Я ўдзельнічаў у забойстве Захаранкі і Ганчара…»





На ютуб-канале нямецкага СМІ «Дойчэ Веле» з'явіўся відэаінтэрв'ю з былым байцом спецыяльнага атрада хуткага рэагавання **Юрыем Гараўскім**, у якім ён прызнаецца, што ўдзельнічаў у забойстве Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага.

Гараўскі кажа, што даўно збіраўся «скінуць камень з душы». У фільме ён дэманструе пасведчанне асацыяцыі ветэранаў Унутраных войскаў.

Ён паказвае ў відэа спіс усіх людзей, якія ўдзельнічалі ў спецаперацыі па ліквідацыі Захаранкі, Ганчара і Красоўскага.

